ДЫЯЛОГІ



## Міхась СКОБЛА – Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# «Не здрадзіш, не згубіш мову, на якой любіш»



*Вёска Сілічы на Лагойшчыне знакамітая сваім гарналыжным курортам. Вабяць да сябе і мясцовыя аграсядзібы, якіх тут з паўдзясятка, на любы густ. Не лыжнік і не аматар агратурызму, я прыехаў у Сілічы, каб сустрэцца з пісьменніцай Марыяй ВАЙЦЯШОНАК, чый дом, хоць і стаіць у зацішным завулку, кідаецца ў вочы сваёй дагледжанасцю і прадуманым да драбніц надворным ландшафтным дызайнам, у які ўмела «ўпісаны» розныя неабходныя ў сялянскай гаспадарцы рэчы. Не паспяваю я агледзецца на падворку, як выходзіць гаспадыня і запрашае ў дом.*

**– Марыя Антонаўна, па вашым доме і вакол яго можна праводзіць экскурсіі – столькі тут розных цікавостак, ад карцін вядомых беларускіх мастакоў да чоўна, які «плыве» проста па вашым дварышчы. У вашым жыцці было некалькі дзіцячых дамоў і дамоў-інтэрнатаў… Тут, у Сілічах, вам удалося ажыццявіць сваю мару пра дом, дзе вам мае быць утульна?**

– Мне заўсёды хацелася жыць у вясковым драўляным доме, які меў бы нейкія характэрныя для традыцыйнага побыту рысы. У нас тут, бачыце, і плеценыя карабы, і кублы, і сяўня, і лапата для пасадкі хлеба ў печ. Усё гэта я збірала цягам усяго жыцця, прычым памятаю, што адкуль паходзіць. Скажам, вось гэты кораб з Палесся, дзе я была ў журналісцкай камандзіроўцы. Вяртаючыся ў Мінск, ухітрылася пранесці яго ў самалёт (маленькі «кукурузнік»), сказаўшы, што гэта музейны экспанат. Цяпер ён стаіць наверсе, у Святланы (*на другім паверсе – працоўны кабінет Святланы Алексіевіч. –* **М.С.**). Калі мы тры гады таму сюды пераехалі, вочы мае шукалі вясковую забудову. І якраз насупраць нашага завулка стаяла старая хата без гаспадара. Калі яе зносілі, я хадзіла развітвацца, яе ж не было каму праводзіць...

### «Я і сёння стаю перад цёткай Марыляй, як перад іконай»

**– Заходзячы да вас, я міжволі звярнуў увагу, што перад веснiцамі, не парадныммі, а тымі, што ад поля, стаяць звычайныя вілы. Што вы імі робіце? Абараняецеся ад зладзеяў?**

– Зусім не (*усміхаецца*). Сыходзячы з хаты, я зачыняю дзверы на два замкі і – стаўлю ў весніцах вілы, граблі ці проста нейкі кій. Я раблю гэта часта падсвядома, таму што так з даўніх часоў рабілі ў вёсцы Грыдзькі на Пастаўшчыне, у цёткі Марылі, дзе прайшло маё маленства. Там людзі ніколі не пільнаваліся ні замкоў, ні ключоў, там быў давер да чалавека, нават да чужога. І гэта засталося ўва мне і перанеслася ў Сілічы. Так, мне тут вельмі ўтульна. У мяне ўсе рэчы – на сваіх месцах, як вось гэтая беларуская лапата ля італьянскага каміна. Здавалася б, рэчы несумяшчальныя, але яны знаходзяцца ў адным сваяцтве – з агнём, з вуголлем.

**– Вы нарадзіліся на Алтаі, куды саслалі вашу сям'ю ў 1939-м. Працавалі ў рускамоўных выданнях – «Сельской газете» і часопісе «Нёман». Адкуль у вашай прозе такая каларытная і натуральная беларуская мова?**

– З Грыдзькаў. І не толькі мова. Уся мая жыццёвая навука. Толькі там, у пастаўскай вёсцы, я зразумела, што мяне любяць. У любові і мове маёй цёткі Марылі была такая *магута*, такая плынь, што яна знесла і маю польскую мову (з ранняга дзяцінства), і рускую. Прычым цётка мяне не змушала, але яе любячая душа размаўляла са мной па-беларуску. Вось і ўсё. Бо – не здрадзіш, не згубіш мову, на якой любіш. Таму, калі дзеці не ведаюць роднай мовы, віна найперш кладзецца на бацькоў, чыя любоў размаўляла не па-беларуску.

**– Вы з такім замілаваннем у сваіх творах прыгадваеце і цётку, і вёску, што тыя Грыдзькі мне як чытачу здаюцца раем на зямлі. Але я сам з вёскі і ведаю, як цяжка жылося вяскоўцам пры калгасным ладзе. Ці не прыхарошваеце вы вясковую рэчаіснасць?**

– Не прыхарошваю. Я не магу вам перадаць, якая культура адносін была ў нашай вёсцы! Гэтая лёгкасць, гэты заўсёдны гумар. Памятаю, як грыдзькаўцы цэлай вёскай збіраліся на *карчажку* (вогнішча), як хадзілі *ў паджыцце* (свята красавання жыта). Усе – ад малога да старога! Частаваліся, але я не памятаю ніводнага п'янага. Ніхто ў Грыдзьках багата не жыў. Але перад кожнай хатай красаваліся гародчыкі з кветкамі... А потым, калі я паехала працаваць настаўніцай у Пружанскі раён (вёска Боркі), у мяне быў проста шок. Платы паваленыя, свінні бегаюць па вуліцах… І калі сёння я чую: «Ой, у нас таго няма, гэтага няма», то мне хочацца адказаць: такім сваё жыццё вы самі і зрабілі, людцы вы мае... За сваё жыццё я ведала шмат адукаваных і добрых людзей, але на першым месцы для мяне заўжды застанецца мая цётка Марыля. Я і сёння бачу яе аблічча, стаю перад ёю, як перад іконай. Не ведаю, як гэта назваць. Гэта не ўяўленне, хутчэй як экстрасенсорыка…

### «Калі вы крыўдзіцеся, калі вы камусьці не даравалі – вы ахвяра»

**– Ваша апавяданне «Коні» прасякнута такой любоўю да «братоў нашых меншых», што яго хочацца чытаць уголас, як малітву…**

– Не вы першы мне гэта кажаце (*усміхаецца*). Мая пляменніца Генечка (працавала загадчыцай фермы, ёй і аўтамабіль падарылі, і ордэнам Дружбы народаў узнагародзілі) неяк прызналася, што дала пачытаць маю кніжку сваёй сяброўцы. «А што за сяброўка?», – пытаюся. «Былая загадчыца склада. Дык яна, вяртаючы кніжку, сказала: «Калі чытала, то мне здавалася, быццам я малюся».

**– Мы з былой загадчыцай склада тут не арыгінальныя. У Янкі Брыля сказана проста афарыстычна: «Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, то думайце, што – малюся».**

– Брыль – вялікі прыродазнаўца. А чаму ў мяне такое стаўленне да жывой прыроды… Мама мяне не любіла; калі мы жылі ў Змяінагорску на Алтаі, я не памятаю, каб мяне хто за руку браў. Жылі мы ў зямлянцы, і я спала разам з казой. Я там бачыла шмат кветак, мне здавалася, што яны да мяне самі выходзілі насустрач. Нас ад галоднай смерці выратавалі козы. Пасля таго як ад нас сышоў бацька, мама не мела ніякай працы. Яна села за прасніцу, і толькі дзякуючы гэтаму мы засталіся жывыя… Калі мы жылі ў Іслачы непадалёк ад Ракава, я часта назірала, як на пашы хадзіў статак кароў. Абгароджаны дротам пад токам, гэта называецца электрапастухом. Некаторыя каровы – цельныя, а іх токам б'е! Як такое магчыма?! Цяляты нараджаліся проста на полі, і я чула, як каровы рыкалі-галасілі. На маё разуменне, карова павінна мець свой хлеў, як чалавек мае дом.

**– Высылка на Алтай, выжыванне ў зямлянцы, сіроцтва… Ці ёсць у вас крыўда на тую ўладу, якая прычыніла вам столькі гора?**

– Я не выглядаю як ахвяра. Шмат чаго ў жыцці я пераадолела, і нават граблі на маіх плячах – як знак ваяра. У мяне за душой няма крыўды, бо калі вы крыўдзіцеся, калі вы камусьці не даравалі – вы ахвяра. Крыўда, злосць і недараванне – гэта ваша няволя. Я часта бачу побач з сабой шмат пакрыўджаных – на ўладу, на час, на разнастайных ворагаў! Здавалася б, і вайны няма, а столькі вакол варожасці. Людзі абгароджваюцца варожасцю, як кра́тамі, не разумеючы, што самі сябе трымаюць у няволі.

**– А з кім вы сябруеце? З кім вам хочацца весці размову, якая была б раскошай, як сказаў аднойчы Антуан дэ Сент-Экзюперы?**

– Апошнім часам у мяне моцна пагоршыўся зрок, я не магу чытаць. Але ўжо шмат гадоў са мной застаюцца найдаражэйшыя суразмоўцы – іспанец Сан Хуан дэ ла Крус і палякі Ян Твардоўскі і Ян Сохань – паэты-ксяндзы, іх кнігі і цяпер у мяне на стале. Часам мне па тэлефоне штосьці чытае прыяцелька Аксана Ёркіна, якая, дарэчы, вядзе нашу старонку ў «Фэйсбуку» – «На прызбе ў Сілічах». Вось нядаўна я пачула вершы Насты Кудасавай з Рагачова, і яна мне адразу стала вельмі блізкім чалавекам. А мы ж ніколі не бачыліся! Мне заўсёды цікава слухаць творы Тані Скарынкінай, якая можа падняць з зямлі нешта незаўважнае і напісаць пра гэта выдатны верш. Я вельмі люблю Вольгу Бабкову, якую лічу праваднікам з космасу. У яе прысутнасці я больш красамоўная, болей сама сабе падабаюся, шкада, што яе цяпер няма з намі (*усміхаецца*). Рэцэнзіі Вольгі на мае кніжкі – гэта проста жывапісныя тосты на застоллі! А мае мілыя сваячкі! Нядаўна яны дзяліліся навіной: «Марыя прыслала сваю новую кнігу, тоўстую – ажно 15 сантыметраў!» Я цешуся з такіх адносін.

### «Стаяць двухпавярховыя багатыя дамы, а бадыллё – да стрэх»

**– Прабачце, але нават з двума віламі і трыма граблямі на плячах я не магу ўявіць вас ваяром. З кім вам тут даводзіцца змагацца?**

– Справа ў тым, што ў Сілічах я не адчуваю сябе ў бяспецы. За нашым домам – поле, засеянае элітнай травой. Летась і пазалетась яго ніхто не касіў, а стаяла такая спёка! Адной іскры дастаткова. Калі нікому тая трава не трэба – аддайце на корм і подсцілку жывёле (нашы суседзі, мнагадзетныя сем'і, трымаюць гаспадаркі). Званю ў сельвыканкам, а мне там жаляцца: няма каму пакасіць. У вёсцы Грыдзькі няма ўжо цётчынай хаты, толькі студня захавалася. Але зямельны надзел – абкошаны, я праз раённую газету знайшла касца. А ў Сілічах стаяць двухпавярховыя багатыя дамы, а бадыллё – да стрэх. Побач жа – гарналыжны курорт, бывае шмат гасцей, у тым ліку замежнікаў, яны ж усё гэта бачаць... А зімой наш завулак засыпае снегам, ніхто яго не чысціць. Аднойчы ехаў пасол і заваліўся ў канаву. Я зноў за тэлефон, а мне сельвыканкам адказвае: «Ну і што, што пасол, усе людзі аднолькавыя». Я кажу: на вашым месцы я сама села б на трактар і пачысціла дарогу да дома, у які прыязджаюць паслы і іншыя знакамітыя людзі.

**– Замежны пасол у канаве для Сіліцкага сельвыканкама – не надзвычайнае здарэнне?**

– Атрымліваецца, што не. Ні боязі, ні адказнасці. Затое ёсць боязь іншага парадку. Часта чую: ой, не гавары пра гэта па тэлефоне! Чаму? Я жыву на сваёй зямлі, я маю сваю краіну. Чаму я не магу адкрыта выказваць свае думкі? Чаму я павінна ледзь не штодня камусьці даказваць, што жыву на сваёй зямлі і хачу мець свае парадкі? Неяк мая прыяцелька, яна родам з Расіі, кажа мне: «Я толькі што прыехала з Індыі. Дзе б мне двух беларусак знайсці, каб вокны памылі?»

**– Беларусы, атрымліваецца, для яе парабкі?**

– Так, прыслуга. Можаце сабе ўявіць? З другога боку, я не разумею заклікаў па дзяржаўным радыё: «Любі сваё! Слухай сваё!» Гэта ж прымус.

**– Чаму прымус? Падказка!**

– Але навошта падказваць у загадным ладзе? Я ведаю адну пісьменніцу, якая гаворыць: «Я прынцыпова па-руску нічога не чытаю!» Пры гэтым замежных моў не ведае. Як такое магчыма? Чаму руская мова не можа быць акном у іншы свет? Ты адчуваеш свой беларускі хрыбет? Ён дастаткова моцны? Дык вазьмі нешта з дасягненняў чалавецтва, каб узмацніць сябе. Нельга самаабмяжавацца і любіць толькі сваё. Для мяне гэта непрымальна. Пакуль магла чытаць, я не ўяўляла свайго жыцця без часопіса «Иностранная литература». Не варта баяцца свету. Калі ты маеш уласны гонар, ты недатыкальны і непарушны.

### «Таленавітых людзей не трэба прыцiскаць да пазногця»

**– З недатыкальнасцю ў нас праблемы. Нават тыя, хто яе мае паводле статусу, яшчэ як датыкальныя. Згадайце, што вычваралі з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Някляевым у 2010 годзе.**

– Някляеву як паэту можна ўсё дараваць. Вось мне нядаўна прачыталі яго новую паэму «Вавукі» – проста шыкоўна! Таленавітых людзей не трэба прыцiскаць да пазногця. Не трэба іх пільнаваць – тое ён сказаў ці не тое. Вы паглядзіце, што ён напісаў! Тыя «Вавукі» я на ўсіх слупах расклеіла б, хай бы людзі чыталі! Так, слова паэта можа быць як зброя. А можа прынесці і лагоду ў душу. Неяк у мяне быў хмарны дзень, і я пазваніла прыяцельцы. Яна мне тры вершы Валянціны Аксак прачытала і пытаецца: «Яшчэ што-небудзь хочаш паслухаць?» Я кажу: «Не. Не сцягвай з майго стала святочны абрус. Не перасцілай на будзённае, я хачу пасвяткаваць даўжэй». Усяго тры вершы, а паветра ў хаце стала чысцейшае!

**– На мяне падобнае ўздзеянне аказвае кніга Паўла Севярынца «Люблю Беларусь».**

– Прыкра, што Паўла ўсё ж выключылі з ПЭН-цэнтра. Трэба было з ім па-сяброўску пагаварыць, высветліць прычыну яго недаверу да ПЭНа, я лічу Паўла разумным і таленавітым чалавекам. Святлана (*С.Алексіевіч, якая на апошнім з'ездзе была абрана старшынёй беларускага ПЭН-цэнтра. –* **М.С.**) была супраць выключэння. Гэта самой арганізацыі вялікі мінус. Трэба было ў той сітуацыі паводзіцца ўсё ж больш памяркоўна.

### «Укленчыць перад іконай – гэтага мала…»

**– Чытачы атрымалі ад вас навагодні падарунак – шыкоўна выдадзены том прозы і паэзіі «Альбом для цёткі Марылі»...**

– Гэта заслуга Святланы, выдаўца Ігара Логвінава і паэта Леаніда Галубовіча, якi сталі ўкладальнікам. Я губляю зрок, прызнацца, мне было не да кнігі. Але Света настояла, з усімі дамовілася. Кніга атрымалася сапраўды прыгожай, дзякуй усім!

**– Прадмову да яе, расказаўшы пра сваё жыццё, вы закончылі нечакана: «Я бачыла Бога». Гэта ў тым сэнсе, што Бог ёсць любоў?**

– Так, не трэба тыя словы разумець літаральна. Я і перад іконай заўжды адчувала сябе разгубленай і вельмі рэдка нешта прасіла. Лічыла, што павінна ўсяго дамагацца сама, што трэба ведаць, дзе спыніцца, што сказаць. Укленчыць перад іконай – гэтага мала. Найперш трэба, каб Бог наогул ведаў, што ты на свеце ёсць. І ў мяне такое адчуванне, што за мной увесь час нехта сочыць. І яшчэ адчуваю, калі нешта вартаснае зраблю, некаму дарую, то – набліжаюся да Бога. Здалёку-здалёку, але набліжаюся.

**– Дзе і з кім вы будзеце сустракаць Новы год?**

– Дома. У такія дні пакідаць хату нельга. Хату і сабаку Мальту. Пакуль не ведаю, ці буду каго запрашаць.

**– Што пажадаеце чытачам «Народнай Волі» ў новым годзе?**

– Пажадаю заўжды адчуваць тых, хто побач, мы вельмі залежым адзін ад аднаго. І самае галоўнае – як мага часцей размаўляць на мове любові. І калі любоў выказваецца на іншай мове, прымаць яе, не адпрэчваць. Хочацца, каб пра гэта памяталі і ў кожнай сям'і, і ў цэлай дзяржаве.

ЗА КАДРОМ

# Сначала «Купалу» посмотрит Лукашенко, потом мы

Предпоказ самого ожидаемого белорусского фильма уходящего года – исторической драмы о судьбе народного поэта Беларуси Янки Купалы – должен был состояться еще 17 декабря, в День белорусского кино. Эту дату не раз сообщал директор «Беларусьфильма» Владимир Карачевский в различных интервью. Но праздник кино прошел без премьеры байопика «Купала». Почему? Мы спросили об этом у режиссера фильма Владимира Янковского. И состоится ли вообще просмотр картины до конца года?



– Фильм отослали президенту. Как только «Купалу» посмотрит он, будет просмотр для общественности. Возможно даже, это случится очень скоро. Но, думаю, все-таки не сегодня и не завтра, президент ведь только вернулся из командировки.

А в широкий показ на экраны кинотеатров фильм выйдет в 2020 году – как и планировалось. Затем будет сделан 4-серийный фильм для телевидения.

В картине «Купала» раскрываются основные вехи жизненного и творческого пути поэта, совпавшего с наиболее трагическими событиями первой половины XX века. Трейлер киноленты есть на английском, русском, белорусском и китайском языках. Афиша разработана совместно с известным белорусским художником и дизайнером Владимиром Цеслером.

Съемки проходили в Беларуси, России, Литве. В фильме задействованы белорусские актеры и лишь один приглашенный – Николай Шестак. Он родом из Латвии, но имеет белорусские корни. Николай Шестак и сыграл нашего классика.

**Виктория ДРОЗД.**

РЭГІЁН

# У Гродне плануюць прадаць каля 6 тысяч ёлак

*Такая колькасць навагодніх ёлак, як паведамілі "Народнай Волі" ў Гродзенскім лясгасе, прадаецца апошнія некалькі гадоў.*

Навагоднія ёлкі высаджваюць на адмысловых плантацыях і вывозяць прадаваць на ёлачныя базары. Паводле меркавання спецыяліста Гродзенскага лясгаса Аляксея Панамара ёлкі нічым не адрозніваюцца ад тых, што і проста растуць у лесе.

"Ніякіх адмысловых сартоў мы не высаджваем для навагодніх ёлак, – заўважыў "Народнай Волі" спецыяліст лясгаса. – І падкормкі для іх таксама ніякай не ўжываем. Гродзенцы купляюць самыя што ні на ёсць экалагічныя, звычайныя нашы традыцыйныя ёлкі, якія ў кватэрах даюць адчуць водар лесу".

Кошт гродзенскіх ёлак вышынёй да аднаго метра – 11 рублёў, да двух – 14, а ад двух да трох метраў – 22 рублі. Аляксей Панамар звяртае ўвагу, што сёлета яшчэ не зафіксавана ніводнага выпадку браканьерства і вельмі хацелася б, каб так і было.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РАБОТА НАД ОШИБКАМИ

# Долгих лет жизни, Петр Григорьевич!

В прошлом номере «Народная Воля» напечатала материал про министров внутренних дел Беларуси – где родились, что закончили…

Но не обошлось без ложки дегтя: вместо фотографии умершего более трех лет назад генерала **Владимира Егорова** мы напечатали фотографию ныне здравствующего бывшего министра обороны Беларуси **Петра Чауса**. Оба улыбчивые, в генеральской форме, чем-то даже немного похожи внешне. Недосмотрели, одним словом. Перепутали…

А Петр Чаус – постоянный читатель «Народной Воли»…

*«Ничего страшного! Переживем!»* – улыбнулся Петр Григорьевич Чаус по поводу своего снимка в газете.

«Народная Воля» приносит извинения читателям и еще раз Петру Чаусу.



Кстати, 7 января 2020 года Петр Григорьевич Чаус отпразднует день рождения, ему исполнится 81 год.

Желаем здоровья и долгих лет жизни, Петр Григорьевич!

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# ВАНДРОЎНІК

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пагутарыў з чалавекам, для якога падарожжы – справа ўсяго жыцця.*



У наступным годзе **Аляксей ЯЗЫЛЕЦ** адзначыць своеасаблівы юбілей – 25 гадоў, як ён вандруе па ўсім свеце. А пачалося ўсё са школы і футбола…

– У школьным узросце я любіў геаграфію і футбол, – кажа Аляксей. – З 9 гадоў балеў за мінскае «Дынама», мне падабалася не толькі сачыць за дамашнімі матчамі каманды, але і знаёміцца з іншымі гарадамі, калі «Дынама» гуляла на выездзе.

Праўда, на той час я яшчэ не думаў, што падарожнічаць па розных краінах стане захапленнем, але, як кажуць, апетыт прыходзіць падчас ежы. Спачатку знаёміўся ў іншых гарадах з помнікамі архітэктуры, наведваў вядомыя месцы, а затым зразумеў, што мне цікавыя і людзі.

Так усё і пачалося. Першы раз самастойна за мяжу паехаў, калі мне было 12 гадоў, і гэта было дастаткова кароткае падарожжа ў Маскву. А больш усвядомлена пачаў падарожнічаць ужо ў 17 гадоў.

**– Як бацькі паставіліся да вашага захаплення?**

– Я ж не адразу вырашыў паехаць у Судан альбо Эфіопію. Да далёкіх падарожжаў рыхтаваўся паступова. Спачатку знаёміўся з Беларуссю, пазней паехаў у Польшчу, у больш аддаленыя рэгіёны. Я тлумачыў бацькам, што ўжо набраўся пэўнага вопыту і валодаю адпаведнымі ведамі, таму за мяне не варта перажываць. І яны з часам прызвычаіліся. У чэрвені наступнага года будзе ўжо 25 гадоў, як падарожнічаю.

**– Першую сур’ёзную вандроўку памятаеце?**

– У 1999 годзе было падарожжа па Еўропе, мне тады быў 21 год. Праехаў Польшчу, Германію, Бельгію, Галандыю, Францыю. Памятаю, грошай тады давялося пазычыць, але ў Англіі ўладкаваўся на працу і правёў там каля пяці месяцаў.

Працаваў на сельскагаспадарчых работах, яшчэ перад паездкай дамовіўся на гэты конт з мясцовым фермерам. Збіраў гарбузы, кукурузу, за гадзіну атрымліваў каля 4 фунтаў, за дзень – 30–40. Гэтага хапала, ды і праца для маладога хлопца была нескладаная.

А больш сур’ёзныя падарожжы пачаліся ў 2004 годзе, калі стаў ажыццяўляць экспедыцыйныя вандроўкі. Першая была вакол Турцыі праз Грузію. Вельмі цікава было падарожнічаць па Курдыстане, па Усходняй Турцыі – рэгіёне зусім не турыстычным, але вельмі прыгожым і каларытным. Пазней былі Іран, Сірыя, Іарданія, Егіпет…

Затым праз шэраг еўрапейскіх краін патрапіў у Запаляр’е. Пераляцеў праз акіян у Канаду, паромам паплыў на Аляску. На Алясцы, дарэчы, даволі часта сустракаў мядзведзяў. Гэта там – як у Беларусі зайца сустрэць.

**– Заяц менш небяспечны…**

– Сустрэча з мядзведзем-грызлі і насамрэч можа для чалавека дрэнна скончыцца, але ў лясах там, як правіла, чорныя мядзведзі, якія звычайна не нападаюць на людзей. Неяк падвозіў мяне дальнабойшчык, я яму расказаў, што ноччу спаць буду пад адкрытым небам. Вадзіцель супакоіў: «Не перажывай, мядзведзі тут на людзей не нападаюць».

Дарэчы, на Камчатцы, куды мы ездзілі кампаніяй, у першую ж ноч мішка скраў пакунак з ежай, які вісеў на дрэве. Раніцай першай прачнулася дзяўчына, выйшла з намёта і бачыць – мядзведзь вырашыў паласавацца нашымі прыпасамі. Усе, натуральна, адразу не ежу кінуліся ратаваць, а схапіліся за мабільныя тэлефоны, каб фота зрабіць. Праўда, калі пачалі лыжкамі па талерках грукаць, то мядзведзь проста ўзяў у зубы пакунак з надпісам «Нарачанскі масласырзавод» і пайшоў. Я затым знайшоў толькі пластыкавы кантэйнер, а вось мядзельскія катлеты, што мама прыгатавала, мядзведзю, відаць, прыйшліся даспадобы. Прагрыз упакоўку для крэма ад сонца, але, напэўна, смак не вельмі спадабаўся.

Зрэшты, падчас вандровак сустрэчы з жывёльным светам проста непазбежныя. Напрыклад, неяк плылі ў Мазамбік на драўлянай лодцы. Спачатку мясцовыя жыхары не хацелі мяне браць, але, як аказалася, толькі з-за таго, што лодка працякала. Падчас паездкі ім даводзілася вычэрпваць ваду, а я рабіў фотаздымкі краявідаў. Праплываем ля аднаго вострава, а адтуль кракадзіл як пляснецца ў ваду! Акурат ля нашай лодкі. Тут ужо і мяне папярэдзілі, каб не гойсаў па лодцы, а сядзеў спакойна, калі не хачу патрапіць у пашчу алігатара.

Я быў у самых розных нацыянальных парках, бачыў самых экзатычных жывёл. А спатканне з павіянам у Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы (ПАР) скончылася тым, што той скраў у мяне заплечнік, пакуль я рабіў фотаздымкі. Пабег за ім, а ён спыніўся і так абурана на мяне фыркнуў, што Божа барані! Маўляў, гэта ўжо маё, забудзься пра свае рэчы. Відаць, жывёлу прывабіў пах бананаў, якія знаходзіліся ў сумцы. Мясцовыя жыхары, праўда, потым забралі ў павіяна заплечнік.

**– У якіх краінах падарожжы былі найбольш экстрэмальныя?**

– Аднойчы прыехаў у Мазамбік. Гэта была экспедыцыя на поўдзень Афрыкі, але цалкам без авіяпералётаў. Ехаў з Беларусі ў ПАР аўтаспынам праз Румынію, Балгарыю, Турцыю, Сірыю, Іарданію, Егіпет, Судан, Эфіопію, Кенію, Танзанію… І вось у Мазамбіку ўзніклі праблемы з візай, я нават абяцаў паскардзіцца ў Міністэрства ўнутраных спраў. Пакуль разбіраліся, некалькі дзён давялося спаць у намёце, але справа скончылася тым, што я ўсё-такі патрапіў у гэтую краіну, але іншым шляхам.



У Папуа мост зламаўся на горнай дарозе, і сем дзён давялося чакаць экскаватар, каб яго адрамантавалі. У выніку за 12 дзён з вадзіцелем змаглі праехаць у адным накірунку толькі 147 кіламетраў (з 575!) трасы Транс–Папуа – неверагоднае бездарожжа! Таму, як бачым, без накладак не абыходзілася.



**– Вы сустракалі экзатычных жывёл, а незвычайную ежу давялося пакаштаваць?**

– Адразу скажу, што розных пацукоў, жукоў ці чарвякоў я не еў, бо аддаю перавагу традыцыйнай ежы. А вось садавіны пакаштаваў самай разнастайнай. Рамбутан, мангусцін, папая, драган, манга вельмі смачныя!

Спадабаліся нацыянальныя кухні многіх краін – еў і аляніну, і мяса мядзведзя, і розныя рыбныя стравы. Ды і самі нешта смажылі на вогнішчы.

**– Колькі грошай звычайна патрэбна на падарожжа?**

– На месяц 300–500 долараў можа хапіць. Нягледзячы на тое, куды вы паехалі – у Аўстралію ці Афрыку. Праўда, я ніколі не падарожнічаў больш за год. Вось мой сябра, напрыклад, два з паловай гады вандраваў па Паўднёвай Амерыцы. Увогуле, калі правільна арганізаваць падарожжа, то можна шмат на чым сэканоміць.

**– Мясцовыя жыхары дапамагаюць?**

– Не без гэтага. Вельмі добра прымалі ў Іране, Сірыі, дзе я пабываў тройчы. Увогуле, я стараюся не адкладваць паездкі ў неглабалізаваныя краіны, дзе яшчэ захаваліся самабытныя быт і культура. Як, напрыклад, у Папуа, дзе ў некаторых вёсках жанчыны не ведаюць, што такое станік, а мужчыны ходзяць з катэкамі – футлярамі для пеніса. І нават у такіх вёсках самабытная культура ўжо паціху вымірае, таму трэба спяшацца.




**– Нейкія невялікія падаруначкі мясцовым робіце?**

– Часам дару беларускія грошы, хаця некаторыя палохаюцца, думаюць, што за гэта трэба таксама заплаціць. Тлумачу, што гэта – сувенір. Бывае, што напішу на купюры – «Беларусь».

**– А ці ведаюць пра Беларусь у іншых краінах?**

– Шмат у якіх зусім нічога не ведаюць. Аднойчы консул Малаві ў Замбіі не хацеў мне даваць візу, сказаў, што я маню і краіны Беларусь у свеце не існуе. Пайшоў правяраць. На мяжы Сірыі і Іарданіі памежнік палічыў, што «Беларусь» і «Барбадас» – гэта адно і тое.

Але ведаюць не толькі пра нас. Сябра распавядаў гісторыю, што, здаецца, у пасольстве Конга ад грамадзяніна Таджыкістана акрамя пашпарта яшчэ патрабавалі і даведку, што такая краіна існуе.



**– Колькі вы за 25 гадоў змянілі пашпартоў?**

– Зараз у мяне ўжо адзінаццаты пашпарт, бо калі не хапае старонак для візы, то дакумент трэбя мяняць. Дарэчы, самыя дарагія візы, напэўна, у ЗША, Аўстралію, Аб’яднанае Каралеўства, Чылі і Малаві (100–120 долараў).

У некаторых краінах наогул цікавая сітуацыя: за кошт візы можна гандлявацца, як на рынку. Калі я ехаў з Танзаніі ў Кенію, памежнік назваў мне завышаную суму, на што я сказаў, што быў ужо тут і ведаю, які кошт на самай справе. Ён зрабіў выгляд, што быццам правярае гэта ў камп’ютарнай базе, а затым кажа: «Акей, цябе не падманеш».

Я наогул стараюся ніколі не даваць хабар. Па-першае, гэта дадатковыя выдаткі, па-другое, не трэба прывучаць памежнікаў да гэтага. Калі я ехаў з партугальцамі ў Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку, на мяжы адной з краін мы тры дні стаялі, бо памежнікі чакалі ад нас хабару. Але мы прынцыпова нічога не плацілі, таму ў рэшце рэшт прапусцілі проста так. За гэтыя тры дні мы знаёміліся з горадам і жылі ў гатэлі першага класа. Каб вы лепш уявілі першы клас, скажу, што ў пакоі былі бетонныя сцены, падлога і столь, вентылятар і жалезны ложак – такі, як раней стаялі ў студэнцкіх інтэрнатах. Начавалі ў другім класе – такія ж ложкі, толькі пад адкрытым небам, на дварышчы гатэля.

**– Што звычайна бераце з сабой у падарожжа? Ёсць нейкі традыцыйны набор?**

– Самае галоўнае – не забыць галаву. *(Смяецца.)* Гэта жарт, натуральна, але і на самай справе напярэдадні трэба прадумаць маршрут да дробязяў: размеркаваць бюджэт, знайсці квіткі і жыллё, нічога не забыць. Пашпарт я, дарэчы, звычайна нашу заўсёды ў невялікім гаманцы на шыі, бо, калі згубіш дакумент альбо ён будзе ў заплечніку, які можа скрасці той жа павіян, то праблем у чужой краіне не абярэшся. Складана нават уявіць, што вы будзеце рабіць у якой-небудзь афрыканскай краіне, дзе няма беларускіх пасольстваў, без пашпарта.

Таксама практычна заўсёды бяру з сабой спальны мяшок, бо сітуацыі ў дарозе здараюцца розныя і начаваць нярэдка даводзіцца на вуліцы. У 1990-я гады толькі так і падарожнічалі.

Натуральна, неабходны сродкі гігіены, карты краін, акумулятарная батарэя для тэлефона і грошы – на картцы і наяўныя. Памятаю, у Мазамбіку хацеў памяняць 20 долараў, дык гэта заняло ледзь не дзесяць хвілін. Перапісвалі нумар купюры ў адзін журнал, затым у другі, рабілі ксеракопію… Паўсюль свае законы.

**– Дзе ўдалося пабываць за гэты год?**

– Мінулы Новы год мы сустракалі з сябрамі ў Інданезіі і да гэтага падарожжа рыхтаваліся каля двух гадоў. Ляцеў у Інданезію я даволі складаным маршрутам – былі чатыры пералёты. Затым восем дзён плылі з вострава Ява на востраў Папуа – Новая Гвінея. Дарэчы, Новы год мы сустрэлі адны з самых першых на планеце – калі ў Беларусі прабілі куранты, у Інданезіі было шэсць гадзін раніцы, і я сустракаў усход сонца ў каюце капітана, куды можна свабодна заходзіць іншаземцам (проста ля дзвярэй фармальна запытацца, ці можна ў капітанскую рубку).

У Папуа правёў каля двух месяцаў, тыдзень – у Малайзіі, затым пераляцеў праз Індыйскі акіян на востраў Шры-Ланка. І даволі танна – усяго за 70 долараў. Затым пералёт у Індыю і цягніком аж да Непала, дзе правёў каля трох тыдняў. Неверагодна цікавая і прыгожая краіна!

Пасля гэтага транзітам праз Маскву адправіўся ў Польшчу, дзе некалькі месяцаў працаваў турыстычным гідам. Гэта, натуральна, сезонная падпрацоўка, а не сталая праца, але заўсёды прыемна сумяшчаць любімы занятак з магчымасцю зарабіць грошы.

У ліпені наведаўся пілігрымкай у Будслаў да Маці Божай, з’ездзіў у Беласток на рок-фестываль «Басовішча», некалькі дзён правёў на Нарачанскіх азёрах… А затым было падарожжа паромам з Заходняй Сібіры ў Запаляр’е. Адным словам, год быў насычаны, ні пра што не шкадую.

**– Аляксей, а ці можна манетызаваць падарожжы?**

– Я пакуль на гэтым не зарабляю, але, мяркую, што гэта можа прынесці прыбытак у будучыні. Паколькі я працую гідам, то можна распрацоўваць новыя турыстычныя накірункі, і мае веды добра спатрэбяцца.

**– Колькімі мовамі вы валодаеце?**

– Асноўная мова зносін – англійская, хаця зараз, калі ў тэлефоне ёсць перакладчык практычна на любую мову, праблем з гэтым зусім няма. Да таго ж мову жэстаў таксама ніхто не адмяняў, пры жаданні з любым чалавекам можна паразумецца.

**– Вандруеце адзін ці з жонкай?**

– Я пакуль не жанаты, хаця, натуральна, хацелася б знайсці чалавека, які ўспрымае свет таксама, як і я. Вандраваць удвух – гэта проста цудоўна…

**Алесь СІВЫ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Пять продуктов, которые помогут вашему мозгу

*Мозг использует 20–30 процентов от всей энергии, вырабатываемой организмом. Если ее не хватает, то мозг медленнее передает нервный импульс, в результате чего мы устаем, плохо концентрируемся, а память начинает сбоить. Как этого избежать? Вот продукты, которые надо добавлять в рацион каждую неделю, чтобы мозг мог функционировать правильно.*



## 1.Зелень

Зелень содержит уникальный микроэлемент – лютеин. Максимальная его концентрация наблюдается в глазу, особенно в сетчатке.

Если лютеина не хватает, то глаза быстро устают, возникают проблемы со зрением. Этот тут же отражается на восприятии и обработке информации извне. Чтобы этого избежать, налегайте на шпинат и петрушку, в которых лютеина большего всего.

## 2.Яйцо

Яичный желток содержит витамин $B_4$, который необходим нам для улучшения памяти, концентрации внимания и, главное, для восстановления нейронов в головном мозге. Именно нейроны помогают правильной работе нервной системы и борются с депрессией.

## 3.Миндаль

В нем присутствует витамин Е, роль которого в нормальной работе нервной ткани нельзя преуменьшать. Если мы хотим сохранить молодость ума, нам нужно потреблять продукты с этим витамином хотя бы пару раз в неделю.

## 4.Рыба семейства лососевых

В этой рыбе наибольшая концентрация Омега-3 и Омега-6 жирных кислот. Они замедляют старение нервной системы, восстанавливают клетки головного мозга, а также участвуют в синтезе так называемого гормона радости – серотонина.

## 5.Питьевая вода

Мозг на 90 процентов состоит из воды. Этот орган страдает от обезвоживания в первую очередь. Недостаток воды снижает мозговую активность, работоспособность человека, приводит к усталости и плохому настроению. Поэтому глоток воды надо делать каждые полчаса.

ОБРАЗ ЖИЗНИ

# Килограммы недосыпа

*Привычка отсыпаться в выходные, чтобы наверстать недостаток сна за неделю, приводит к набору лишнего веса.*

Это утверждают ученые из Университета Джонса Хопкинса (США).

В рамках исследования несколько десятков молодых людей недосыпали в течение рабочей недели, далеко за полночь ложились в пятницу и подолгу отсыпались в выходные. Сдвиги естественных биоритмов привели к тому, что добровольцы испытывали голод ближе к полуночи. И таким образом к концу недели набрали лишние полтора килограмма. Кроме того, в рабочие дни у них повысилась чувствительность к инсулину в мышцах и печени – тканях, которые поглощают сахар после еды.

– А это прямые предпосылки для развития сахарного диабета и сердечно-сосудистых заболеваний, – резюмирует один из авторов исследования Кристофер Депнер.



Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.12.2019 у 17.00. Аб’ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 4138.

